Наша свабода

№1(228) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

4 СТУДЗЕНЯ 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Заўтра праводзім алімпійцаў

5 студзеня ў Мінску адбудзецца ўрачыстая цырымонія праводзінаў беларускіх спартсменаў на XIX Зімовую алімпіяду, якая пройдзе ў амерыканскім горадзе Солт-Лейк-Сіці з 8 па 24 лютага 2002 году. Пра гэта паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Аляксандр Грыгараў 29 снежня на сумесным паседжанні аргкамітэту па падрыхтоўцы беларускіх спартсменаў да Алімпіяды і выканкаму Нацыянальнага алімпійскага камітэту.

Цырымонія разлічана амаль на пяць гадзін (з 11.00 да 15.50) і ўключае ў сябе сустрэчы з прэзідэнтам НАКа Аляксандрам Лукашэнкам, міністрам спорту і турызму Яўгенам Ворсіным, выбары капітана алімпійскай каманды (ім, як мяркуецца, будзе біятланіст Алег Рыжанкоў), ускладанне кветак да Вечнага агню на плошчы Перамогі, правядзенне царкоўнай службы мітрапалітам Філарэтам.

*Заканчэнне на стар.3*

## З праваслаўным Раством!



# Пахаладае да –31°С

## *А потым пацяплее да +2°С*

*Найбліжэйшымі днямі ў Беларусі чакаецца рэзкае змяненне тэмпературы паветра: з 3 па 6 студзеня, у розныя час сутак і ў розных раёнах краіны, яна можа павысіцца з 31 градуса марозу да 2°С цяпла.*

Як паведаміла БелаПАНу начальніца аддзелу метэапрагнозаў Гідраметцэнтру Вольга Фядотава, у найбліжэйшыя суткі (з 21.00 3-га да 21.00 4-га студзеня – воблачна з прасвятленнямі, ноччу – на поўначы, днём – на большай частцы тэрыторыі чакаецца снег, завіруха, снежныя заносы. Тэмпература паветра: ноччу – 21-26, месцамі – 31 градус марозу, а днём – 10-15 градусаў ніжэй за 0.

У наступныя суткі тэмпература паветра складзе: з 4 на 5 студзеня – 4-9 градусаў марозу, на ўсходзе – да мінус 14; з 5 на 6 студзеня адбудзецца аслабленне марозу і тэмпература паветра складзе – ночу 2-7 градусаў марозу, а днём – ад 0 да 5 градусаў марозу. У Брэсцкай і Гродзенскай абласцях – да 2 градусаў цяпла. Месцамі снег, на захадзе – апады ў выглядзе дажджу і мокрага снегу, слабы галалёд. У найбліжэйшыя трое сутак ціск будзе рэзка вагацца, прычым на працягу сутак – на 15-20 міліметраў ртутнага слупка.

«Такія перапады ціску і тэмпературы паветра, што назіраюцца на тэрыторыі Беларусі з другой паловы снежня мінулага году, абумоўлены актыўнай дзейнасцю паўночнаатлантычных цыклонаў, якія рухаюцца на ўсход са Скандынаўскага паўвострава праз краіны Балтыі. У сувязі з гэтым адбываецца чаргаванне працяглых перыядаў холаду з кароткачасовымі перыядамі цяпла», – зазначыла Фядотава.

**Марат ГАРАВЫ**

# Надзвычайная сітуацыя на дарогах

*Некалькі дзён інтэнсіўных снегападаў у Беларусі стварылі сапраўдную праблему на вуліцах. Транспарт мусіў рухацца вельмі павольна, каб не трапіць у аварыю. Дзяржаўная аўтаінспекцыя Беларусі нават звярнулася да аўтаўладальнікаў з заклікам без пільнай патрэбы не сядаць за руль увогуле.*

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні ДАІ МУС, снежнае покрыва дасягае дзе-нідзе 70 сантыметраў, на асобных участках дарог назіраюцца снежныя заносы. Цяжка праехаць па многіх вуліцах сталіцы. Службы дзяржаўтаінспекцыі робяць захады, каб захаваць бяспеку руху, аж да абмежавання і забароны яго на асобных участках.

ДАІ заклікае грамадзян краіны карыстацца аўтатранспартам толькі ў экстранных выпадках. «Паколькі дарожным і камунальным службам сталіцы на прыбіранне снегу спатрэбіцца не менш за тры дні, просьба не планаваць найбліжэйшым часам паездак на асабістым аўтатранспарце па Мінску і за яго межамі», – гаворыцца ў адмысловым паведамленні ўпраўлення ДАІ МУС.

Прыкладна такія ж праблемы з надвор'ем напаткалі і краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дзе днямі адбыліся моцныя снегапады і бураны. Як перадае BBC, траціна ўсяе тэрыторыі Чэхіі афіцыйна абвешчана зонай надзвычайнага бедства. Некалькі памежных пераходаў на чэшска-германскай і чэшска-польскай мяжы зачыніліся.

*Заканчэнне на стар.3*




# Расійскія інтэгратары ўсё за нас вырашылі

## *Адзіная валюта – расійскі рубель. Адзіны эмісійны цэнтр – Масква*

Адзіны плацежны сродак Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі можа быць уведзены ўжо ў 2003 годзе. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі ў Маскве 27 снежня заявіў дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін. Нагадаем, што, падводзячы вынікі паседжання Вышэйшага дзяржсавета 26 снежня, міністр гандлю і эканамічнага развіцця Расіі Герман Грэф назваў іншыя тэрміны. Паводле яго словаў, з 2003 году дзве дзяржавы будуць мець узгодненую бюджэтную палітыку на аснове бездэфіцытнага бюджэту, а да 2005 году плануецца перайсці на адзіную грашовую адзінку – расійскі рубель.

Павел Барадзін сказаў, што эмісійны цэнтр Саюзнай дзяржавы будзе адзін і знаходзіцца ён будзе ў Расіі, у Маскве.

Паводле словаў дзяржсакратара, у лютым 2002 году Савет міністраў і Вышэйшы дзяржаўны савет Саюзнай дзяржавы разгледзяць пытанні аб Канстытуцыйным акце і даце выбараў у саюзны парламент. Як паведамілі БелаПАНу ў Пастаянным камітэце Саюзнай дзяржавы, зараз існуюць два падыходы да фармавання Канстытуцыйнага акту: адзін з іх прапрацоўвае група, створаная пры Парламенцкім сходзе, другі – група пры Пастаянным камітэце. Барадзін выказаў меркаванне, што рэферэндум па Канстытуцыйным акце можа адбыцца ў ліпені-жніўні 2002 году, а выбары ў саюзны парламент – у канцы 2002 году.

Дзяржсакратар выказаў спадзяванне на тое, што ў будучыні да беларуска-расійскага ўтварэння могуць далучыцца Малдова, Арменія і Казахстан.

Гаворачы пра эканамічны складнік інтэграцыі дзвюх краін, Барадзін паведаміў, што па выніках бягучага году тавараабарот паміж імі складзе 11-11,5 мільярдаў даляраў ЗША. Пры гэтым дзяржсакратар адзначыў, што з улікам «цэнавай долі расійска-беларускі тавараабарот складае каля 30 мільярдаў даляраў».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## ВЕСТКІ



### Еўра ідзе

Нацбанк спыніў каціроўкі валют краін, якія ўваходзяць у Еўрасаюз, у звязку з тым, што тут пачало абарачацца еўра. Беларускія банкі будуць мяняць ахвотным беларусам валюты гэтых дзяржаваў на новыя грошы. Тым, хто хоча зрабіць гэта, у Нацбанку раяць карыстацца, каб пазбегнуць падробак, толькі паслугамі банкаў. Праўда, першымі днямі новага году набыць еўра ў абменніках было немагчыма.

### Канал «Культура»

З 1 студзеня пачала вяшчанне другая праграма беларускага радыё – канал «Культура». Беларуская літаратура і музыка будуць папулярызавацца на сярэдніх хвалях 873 кГц і ультракароткіх 70,4 мГц.

### Першы Нацыянальны атлас

Увесну 2002 году пабачыць свет першы Нацыянальны атлас Беларусі. Гэта будзе прэзентацыйны наклад манаграфічнага выдання пра тэрыторыю, прыроду і насельніцтва нашай краіны.

### Завалілі Украіну рубероідам

Украіна пачала антыдэмпінгавае расследаванне па фактах паставак рубероіду з Беларусі. Апошнімі гадамі іх аб'ёмы ўзраслі амаль у пяць разоў, а кошт рубероіду зменшыўся на 15%, што наносіць страты ўкраінскім вытворцам.

### Рэкорд інфляцыі – у снежні

Летась самы высокі ўзровень інфляцыі ў Беларусі быў зафіксаваны ў снежні. Толькі за тры апошнія тыдні спажывецкія кошты выраслі на 4,3%. Дагэтуль самы высокі ўзровень інфляцыі быў на пачатку году – у студзені (4,8%).

### Падлік графіці

Жыллёва-эксплуатацыйныя службы Брэсту правялі падлік жылых дамоў з графіці на сценах. Пазпсаваных будынкаў налічылі 243. Агульная плошча фасадаў, якія давядзецца перафарбоўваць, – каля 20 тысяч квадратных метраў.

**Наступны нумар Нашай СВАБОДЫ выйдзе ў сераду, 9 студзеня 2002 году**

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1610**

## Еўропа ці Расія?

У лютым Малады Фронт мае намер распачаць кампанію «Беларусь – у Еўропу!». Як распавёў лідэр МФ Павел Севярынец, «гэта адначасова акцыя, прымеркаваная да ўвядзення еўра ў Еўропе, і наш адказ на магчымае правядзенне рэферэндуму аб Канстытуцыі Саюзу Беларусі і Расіі і выбараў у саюзны парламент».

Старт яе будзе пакладзены ў Дзень святога Валянціна, 14 лютага, у Мінску. Калі раней акцыя «Беларусь — у Еўропу!» праводзілася цягам толькі аднаго дня, то сёлета яна расцягнецца аж на тры месяцы і ахопіць дзесяткі беларускіх гарадоў. Кампанія будзе ўяўляць сабой своеасаблівы марафон разнастайных акцыяў – ад масавага шэсця да канцэрту – з усходу на захад краіны. Паралельна будзе праводзіцца сацыялагічнае апытанне моладзі, дзе б яна хацела жыць – у Еўропе ці ў Расіі? Вынікі яго будуць абнародаваныя да 14 траўня, даты сумнавядомага рэферэндуму, калі былі скасаваныя нацыянальныя беларускія сімвалы, а беларуская мова перастала быць адзінай дзяржаўнай у Беларусі. Са слоў Паўла Севярынца, пік кампаніі «Беларусь – у Еўропу!» прыпадзе на Мінск на перыяд з 25 сакавіка – Дня Волі – па 2 красавіка, калі была падпісаная дамова аб Саюзнай дзяржаве Беларусі і Расіі.

Кірыла ПАЗЬНЯК

ТРАНСПАРТ

## Новыя станцыі метро

Сёлета ў Мінску павінна завяршыцца будаўніцтва падземнай гандлёвай плошчы перад універмагам «Беларусь». Пра гэта БелаПАНу паведаміў галоўны архітэктар праекту Уладзімір Целяпнёў.

У першую чаргу ў эксплуатацыю будзе ўведзены падземны пешаходны пераход ад станцыі метро «Партызанская» да вуліцы Жылуновіча, будоўлю якога фінансуе гарвыканкам.

Акрамя гэтага, у новым годзе працягнецца будаванне станцый метро «Ракаўская», «Кунцаўшчына» і «Каменная горка». Здача іх у эксплуатацыю чакаецца не раней за 2003 год. Пачнецца таксама актыўнае будаванне станцый «Барысаўскі тракт» і «Уручча» — яны будуць гатовыя недзе да 2005 году.

Лавінія АРЭШКА

## Зіма будзе ў норме

Метэаролагі мяркуюць, што зіма 2002 году ў Беларусі будзе адпавядаць шматгадовым тэмпературным нормам. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАНу паведаміла начальніца службы прагнозаў Гідраметцэнтру Тамара Цярэшчанка.

Ваганні сярэднямесячнай тэмпературы паветра чакаюцца ў межах нормы — ад мінус 8 градусаў у студзені да плюс аднаго ў лютым. «Нягледзячы на тое, што цяперашняя зіма больш халодная за леташнюю, чакаецца, што яе сярэднія тэмпературы будуць блізкія да звычайных кліматычных адзнакаў», — зазначыла Цярэшчанка.

Марат ГАРАВЫ

АКЦЫЯ

## Салігорскія гарнякі выйдуць на вуліцу

Незалежны прафсаюз гарнякоў Салігорску падаў у гарадскі выканкам заяўку на правядзенне ў сталіцы калійшчыкаў мітынгу 15 студзеня. Пра гэта 3 студзеня паведаміў старшыня прафсаюзу Віктар Бабаед. Такім чынам гарнякі збіраюцца пратэставаць супраць пастановы Савета міністраў за №1804 «Аб мерах па абароне членаў правоў прафсаюзаў», прынятай 14 снежня. Гэтым падзаконным актам урад ліквідаваў сістэму безнаяўнага пералічэння прафсаюзных унёскаў праз бухгалтэрыі прадпрыемстваў, а значыць, паставіў прафсаюзы на мяжу фінансавага выжывання. Наймальнікам прадпісана да 1 лютага вярнуць усе ўзносы членам прафсаюзаў, вылічаных з іхных заробкаў па стане на 1 снежня, якія ў прафсаюзы так і не трапілі. Нядаўні прэзідэнт Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў і старшыня Незалежнага прафсаюзу гарнякоў В.Бабаед назваў пастанову «незаконнай» і заявіў пра намер дабівацца яе адмены. На апошнім паседжанні выканкаму БКДП, на якім Віктар Бабаед і сышоў у адстаўку, прынятая заява, у якой пастанова Саўміну № 1804 названая «сплянаванай правакацыяй».

Рыгор БУЯН

## Салдату — салдатава

Міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў падпісаў дырэктыву, якая забараняе прызначаць салдатаў тэрміновай службы на пасады, не звязаныя з баявой падрыхтоўкай. Пра гэта БелаПАНу паведаміў начальнік генеральнага штабу — першы намеснік міністра абароны генерал-маёр Сяргей Гурулёў. Паводле ягоных словаў, кіраўніцтва мінабароны мяркуе, што ва ўмовах скарачэння тэрміну салдацкай службы такія меры дазволяць не толькі захаваць на ранейшым узроўні, але і падвысіць баяздольнасць войскаў. «Ва ўсёй Еўропе ні ў кога няма 18 месяцаў службы — 12, 10, 6... Я не думаю, што мы горшыя або менш вопытныя», — сказаў генерал Гурулёў.

Цяпер, паведаміў ён, на гаспадарчыя пасады (расліннаводаў, жывёлаводаў, пастухоў і інш.) у вайсковых часцях будуць прызначацца толькі служачыя Узброеных сіл. Пры гэтым камандзірам вайсковых часцей «дазволена, у выпадку адсутнасці фінансавых сродкаў, аплачваць працу служачых часткай выробленай прадукцыі падсобнай гаспадаркі». Паводле словаў Гурулёва, на ахову аб'ектаў міністэрства абароны плануецца прыцягваць замест вайсковых вартаў падраздзяленні пазаведамаснай аховы. «У жылых гарадках ваенных гарнізонаў жыве шмат ваенных пенсіянераў, якія не могуць уладкавацца на працу. Яны — прафесіяналы. Гэтая праца — для іх», — сказаў Гурулёў.

Юрый КАСЬЯНАЎ

## Петарды з-пад крыса

У навагоднюю ноч у Гродне пацярпеў ад піратэхнічных забаваў толькі адзін чалавек. Яго даставілі ў бальніцу хуткай дапамогі. Зважаючы на забарону гарвыканкаму, петарды прадаваліся з-пад крыса на рынку.

Міліцыя знайшла ў горадзе трох абмарожаных п'яніц, якія ўсё ж былі ўратаваныя. А вось адзін абмарожаны яшчэ ў канцы снежня ў клініцы памёр. За святочную ноч загінулі два маладыя мужчыны – абодва пад коламі фальксвагена, адзін – у Смаргонскім, другі – у Мастоўскім раёнах. Пасля Новага году ў начных пажарах загінулі 4 чалавекі.

У канцы снежня адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак на памежным пераходзе «Берасавіца». Два мужчыны пасварыліся з-за чаргі на праезд у Польшчу. Адзін штурхнуў другога. У выніку – чэрапна-мазгавая траўма, ад якой пацярпелы памёр у бальніцы праз 3 гадзіны. Яму было 37 гадоў.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

ЗЛАМЫСНІКІ

## Крымінальная справа супраць дрывасекаў

Крымінальная справа ўзбуджана праваахоўнымі органамі Рэчыцы ў дачыненні да двух мясцовых жыхароў, якія спілавалі блакітныя елкі ў самым цэнтры гораду.

29 снежня патрульная машына ДАІ заўважыла двух маладых мужчын, якія пілавалі вярхушку блакітнай елкі, якая расла ў цэнтральным скверы гораду на вуліцы Савецкай. Калі зламыснікі былі затрыманыя, аказалася, што яны знявечылі такім чынам ужо тры дрэвы. Высветліліся іхныя асобы. Аказваецца, хуліганы – галоўны аграном сельгаспрадпрыемства «Баршчэўка» і рабочы рэчыцкага раённага ўпраўлення электрычных сетак.

Крымінальная справа ўзбуджана па частцы 2 артыкула 339 КК РБ – за хуліганскія дзеянні, якія вызначаюцца выключным цынізмам.

Ірына ШАНЦАВА

МАСТАЦТВА

## У Брэсце ствараюць музей

У апошні тыдзень 2001 году будаўнікі прадпрыемства «Брэстрэстаўрацыя» здалі ў эксплуатацыю 1 200 квадратных метраў плошчаў пад будучы мастацкі музей. Ён будзе размяшчацца на Цэнтральным востраве Брэсцкай крэпасці ў паўднёвай частцы кальцавой казармы, справа ад Холмскіх варот.

У музеі будзе 11 залаў. На думку заказчыкаў і генпадрадчыка, такой аркады і залаў не мае ніводзін з музеяў краіны. «Мы ўдыхнулі ў былыя армейскія казармы духоўнасць і культуру», – адзначыў аўтар праекту Уладзімір Казакоў. У экспазіцыі музея будуць прадстаўлены творы жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адна з залаў будзе прысвечана сярэдневяковаму Брэсту, які свой пачатак бярэ з вострава, дзе і размяшчаецца музей.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## Баранскі завод пазбаўляецца баласту

Напярэдадні Каляд у горадзе Барань Аршанскага раёну прайшло паседжанне гарадскога Савета, на якім разглядаліся апошнія распараджэнні аб скарачэнні персаналу на найбуйнейшым у горадзе дзяржаўным прадпрыемстве — фірме «Лёс».

Дэпутаты даведаліся, што фірма «Лёс», як цяпер называецца колішні буйны вайсковы радыёзавод паблізу Оршы, плануе скарацiць 300 чалавек у перыяд да Новага году і столькі ж пасля яго. Скарачэнні тлумачацца эканамічнымі цяжкасцямі прадпрыемства, якія, праўда, перажываюцца ўжо не першы год. За гэты час калектыў ужо скараціўся больш як удвая. Для Барані, класічнага прыкладу «горада аднаго прадпрыемства», гэта будзе мець надзвычай сур'ёзныя наступствы. Таму дэпутаты вырашылі звярнуцца да дырэктара фірмы «Лёс» і самога Аляксандра Лукашэнкі з заклікам спыніць скарачэнні.

Міхал ЧАРВІНСКІ

КЛОПАТ

## Каменданцкі час для моладзі

Віцебскі абласны савет дэпутатаў зацвердзіў часовыя правілы паводзін непаўнагадовых у грамадскіх месцах. У прыватнасці, падлеткам да 16 гадоў забаронена з 10 гадзін вечара да 6 гадзін раніцы знаходзіцца на вуліцы без бацькоў.

Парушэнне дадзенага правіла пагражае штрафам да трох мінімальных заробкаў. Такім чынам, у абласнога бюджэту з'явілася новая крыніца даходаў, а ў бескалопотных бацькоў, на думку дэпутатаў, цяпер будзе стымул дысцыплінаваць сваіх дзяцей.

Леанід СІМАНАЎ

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Сталовая для малазабяспечаных

27 снежня ў Мінску (вул. Народная, дом 26, корпус 2) адкрылася новая сталовая для малазабяспечаных грамадзян.

Бясплатныя абеды па талонах раённых аддзелаў сацыяльнай абароны і дабрачынных фондаў тут змогуць атрымліваць грамадзяне, чый штомесячны даход ніжэйшы за пражытачны мінімум, а таксама інваліды і чальцы шматдзетных сем'яў. Сталовая адначасова зможа абслугоўваць да 120 чалавек.

Лавінія АРЭШКА

АДПАЧЫНАК

## Парк для аматараў горных лыжаў

У вёсцы Якуты пад Дзяржынскам (Мінская вобласць) пачаў дзейнічаць сезонны гарналыжны парк адпачынку «Якуцкія горы».

Як паведамілі БелаПАНу ў сумесным прадпрыемстве «Парк адпачынку «Якуцкія горы», гарналыжны парк абсталяваны трыма рэльефнымі трасамі для горных лыжаў і сноўбардынга даўжынёй 420 метраў з перападам вышыні 45-50 метраў, двума жалабамі для саней-цюбінгаў і гарналыжным пад'ёмнікам. У парку можна пакатацца на снегаходах (кошт арэнды снегаходу – 2 000 руб. за адну хвіліну) і квадрацыклах (1 000 руб. за адну хвіліну). На тэрыторыі парку працуюць пракат гарналыжнага абсталявання (7 умоўных адзінак за дзень), саней (3 умоўныя адзінкі за дзень), камплектаў для сноўбардынга (15 умоўных адзінак за дзень) і кафэ. Навучыцца катацца на горных лыжах жадаючым дапамогуць прафесійныя інструктары.

Сезонны парк працуе штодзённа з 11 да 22 гадзін. Летам на тэрыторыі парку плануецца арганізаваць пляцоўку для пейнтболу, міні-гольфа і іншых гульняў.

Лавінія АРЭШКА

СУВЯЗЬ

## Мінскія тэлефоны

У 2002 годзе унітарнае прадпрыемства «Мінская гарадская тэлефонная сетка» плануе ўвесці ў Мінску 20 тысяч тэлефонных нумароў. Як паведаміў БелаПАНу начальнік аддзелу капітальнага будаўніцтва УП «МГТС» Уладзімір Саянаў, колькасць новых тэлефонных нумароў адпавядае колькасці кватэр, якія ўвядуць у эксплуатацыю, і на працягу апошніх 5 гадоў гэтая лічба не мяняецца. Тэлефонная сетка пашырыцца ў пасёлку Навінкі, мікрараёнах Лошыца, Кунцаўшчына, Вяснянка, Паўднёвы Захад, Курасоўшчына, на вуліцах Волаха і Купрыянава.

У перспектыве, адзначыў Саянаў, плануецца пераасnасціць усе гарадскія аўтаматычныя тэлефонныя станцыі састарэлага дэкадна-крокавага тыпу на новыя электронныя сістэмы. Цягам 2002 году гэтая замена будзе рабіцца ў раёне вуліцы Ісалілева, у выніку чаго ўсе нумары, якія пачынаюцца з лічбаў 224, зменяцца на 229. Сучасная электронная сістэма камутацыі дазваляе абанентам актыўна карыстацца інтэрнэтам, а таксама за невялікую дадатковую плату — 28 паслугамі электроннай АТС.

Мінская гарадская тэлефонная сетка на сённяшні дзень уключае ў сябе 675 тысяч абаненцкіх нумароў. 20% з іх працуюць на камутацыйным абсталяванні старога тыпу, у 2002 годзе гэтая лічба знізіцца да 15%.

Лавінія АРЭШКА

СВЯТА



У Вільню Дзед Мароз прыехаў на старым аўто

ВУЧОБА

## Школа Вялікага княства

Пры канцы студзеня ў Гродне пачне працу «Школа ўдасканалення маладых гісторыкаў» па вывучэнні Вялікага княства Літоўскага. Першы ейны семінар адбудзецца 25-27 студзеня і будзе прысвечаны крыніцам па гісторыі ВКЛ. Наступныя семінары пройдуць па праблемах палеаграфіі, метралогіі, геральдыкі.

Навучацца ў школе будуць не толькі гісторыкі, але і юрысты, культуролагі, філолагі ў веку да 30 гадоў, якія займаюцца тымі ці іншымі аспектамі гісторыі ВКЛ.

Праект рэалізуе Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне маладых навукоўцаў «ВІТ» пры метадычнай падтрымцы спецыялістаў Цэнтральна-Еўрапейскага ўніверсітэту ў Будапешце і выпускнікоў адукацыйных праграм у ЗША. Выкладаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага будуць і замежныя, і айчынныя гісторыкі.

Кірыла ПАЗЬНЯК

# Шчасце быць Дзедам Марозам










Фотарэпартаж Уладзіміра ШЛАПАКА

# Заўтра праводзім алімпійцаў

Заканчэнне, пачатак на стар.1

Згодна з планам цырымоніі, Лукашэнка «вітае алімпійцаў, жадае ім паспяховых стартаў у Солт-Лейк-Сіці і ўручае дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь (...) Алегу Рыжанкову, які дзякуе прэзідэнту (...) за дапамогу і падтрымку ў развіцці спорту ў рэспубліцы і прамаўляе клятву беларускага спартсмена-ўдзельніка XIX Зімовых алімпійскіх гульняў».

Як заявіў кіраўнік аргкамітэту па падрыхтоўцы да алімпіяды віцэ-прэм'ер беларускага ўраду Уладзімір Дражын, «трэба стварыць такі настрой, каб у спартсмена былі слёзы на вачах за тую высокую адказнасць, якую ён нясе, ад'язджаючы на Алімпійскія гульні; мы павінны выступіць лепш, чым на папярэдніх алімпіядах, таму трэба прадумаць кожнае слова, каб яно кранала, як у адным з фільмаў: «душа раскрыецца і закрыецца». Разам з тым Грыгараў, спасылаючыся на пазіцыю спартсменаў, заявіў: «Хлопцы не хочуць гэтай пампезнасці, яны хочуць рабочай абстаноўкі. Рана нам сёння гаварыць пра нейкія справы. Вось прыедзем з медалямі – давайце будзем гуляць, балі ладзіць, феерверкі, музыку добрую слухаць і г.д.».

Паводле інфармацыі Грыгарава, пытанне аб удзеле ў мерапрыемстве Аляксандра Лукашэнкі яшчэ павінна быць вырашана ў Адміністрацыі прэзідэнта. Гэта выклікала рэзкую рэакцыю з боку памочніка прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму, віцэ-прэзідэнта НАК Мікалая Ананьева: «Гэтыя дакументы неабходна было ўнесці своечасова як у Савет міністраў, гэтак і ў выканкам НАК і Адміністрацыю прэзідэнта. Мы сёння парушаем рэгламент працы Адміністрацыі прэзідэнта і ў спешным парадку будзем вырашаць пытанні, якія не патрабавалі наогул ніякай нагрузкі».

На паседжанні быў таксама зацверджаны склад беларускай дэлегацыі на алімпіядзе. Паводле інфармацыі міністра спорту і турызму Яўгена Ворсіна, у ЗША накіруюцца 130 чалавек, у тым ліку 59 спартсменаў і 35 трэнераў. Кіраўніком біятлоннай зборнай будзе прэзідэнт федэрацыі па гэтым відзе спорту, былы кіраўнік беларускага КДБ, а цяпер пасол Беларусі ў Югаславіі Уладзімір Мацкевіч (МЗС, паводле словаў Ворсіна, гатовы прадставіць яму адпачынак); зборных па фігурным катанні, канькабежным спорце і шорттрэку — прэзідэнт Беларускага саюзу канькабежцаў Ігар Жалязоўскі; зборных па лыжных гонках, лыжным двухбор'і і скачках на лыжах з трампліна – віцэ-прэзідэнт федэрацыі лыжнага спорту Віктар Міхайлаў; хакейнай зборнай – віцэ-прэзідэнт федэрацыі хакею Андрэй Жураўскі (прэзідэнт ФХРБ, міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў адмовіўся ад паездкі). Пытанне аб прызначэнні прэзідэнта федэрацыі фрыстайла, рэктара БДУ Аляксандра Казуліна кіраўніком зборнай па гэтым відзе спорту будзе ўзгадняцца з прэзідэнтам НАК Аляксандрам Лукашэнкам. Як вядома, пасля прэзідэнцкіх выбараў пасада рэктара БДУ ўжо не прыраўноўваецца да міністэрскай, а Лукашэнка выказаў незадаволенасць тым, што большасць студэнтаў гэтай ВНУ прагаласавалі супраць яго.

Апрача таго, з прэзідэнтам будуць узгоднены яшчэ некалькі кандыдатур, прапанаваных у штаб алімпійскай дэлегацыі. Кіраўніком усёй дэлегацыі прызначаны Яўген Ворсін.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Вік чакае лепшага

Рэальныя вынікі сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў даюць надзею на дэмакратычныя змены ў Беларусі, заявіў аўстрыйскай газеце *Die Presse* Ханс-Георг Вік, чые паўнамоцтвы як кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ ў Беларусі завяршыліся 31 снежня мінулага году.

Хоць афіцыйна было абвешчана, што за кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка на выбарах у верасні прагаласавалі каля 15 працэнтаў выбаршчыкаў, незалежныя апытанні даюць лічбу ў 30-40 працэнтаў, піша *Die Presse*. Паводле слоў Віка, сярод маладых выбаршчыкаў Аляксандр Лукашэнка ўжо не мае значнай падтрымкі, а прафсаюзы ператварыліся са спадарожніка рэжыму ў прыхільніка дэмакратыі.

За апошнія гады ў Беларусі значна развілася грамадзянская супольнасць, лічыць сп. Вік. «Выбары паказалі, што грамадства расколатае, і мы не можам страчваць тую палову, якая хоча дэмакратыі», — сказаў ён у інтэрв'ю *Die Presse*.

**Алесь АБРАМОВІЧ**

# Пяць жыццяў — за лямпачку Ільіча

Страшная трагедыя здарылася незадоўга да Новага году на сумесным беларуска-латвійскім прадпрыемстве «Мерыга», якое размяшчаецца на тэрыторыі завода ліцця і нармаляў ВА «Гомсельмаш». Старшы майстар, механік-энергетык і тры электраманцёры сабраліся ў абедны перапынак адзначыць Дзень энергетыка. Так бы мовіць, выпіць за лямпачку Ільіча.

Абед яшчэ не скончыўся, а на прадпрыемства ўжо выклікалі «хуткую дапамогу». Першымі ў бальніцу адправілі электрыка і старшага майстра. Ваніты і болі ў страўніку сведчылі пра цяжкае атручанне. Суправаджаць занямоглых таварышаў паехаў механік-энергетык, але хутка і ён апынуўся на бальнічным ложку. Яшчэ двух электраманцёраў адправілі ў бальніцу на аўтамашыне дырэктара СП «Мерыга» Уладзіміра Зенчанкі.

Медыкам не ўдалося выратаваць нікога. Трое адзін за адным памерлі ў гарадской бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі, яшчэ двое – у абласной клінічнай бальніцы. Паводле папярэдніх звестак, усе пяцёра атруціліся дыхлорэтылам – вадкасцю, якая звычайна выкарыстоўваецца для склейвання пластмасы.

Кіраўнікі «Мерыгі» сцвярджаюць, што ў вытворчасці дыхлорэтыл не ўжываецца. Прадпрыемства выпускае металічнае мацаванне рэек для чыгунак Беларусі і Латвіі.

Аднак факт застаецца фактам: у рабочую суботу электрыкі нейкім чынам здабылі смяротносную вадкасць і, нягледзячы на яе спецыфічны пах, чамусьці выпілі. Разабрацца ў здарэнні зараз спрабуе пракуратура Чыгуначнага раёна Гомелю, якая ўзбудзіла крымінальную справу па факце смерці 5 працаўнікоў СП «Мерыга».

Рабочыя ЗЛІНа, дзе знаходзіцца «Мерыга», добра ведаюць, што на тэрыторыі завода можна без асаблівых цяжкасцей купіць моцныя напоі хатняга прыгатавання. Падпольныя пункты продажу самагонкі ёсць літаральна ў кожным цэху. Попыт на самапальную вадкасць такі высокі, што да 10 гадзін раніцы распрадаюцца ўсе прынесеныя на завод запасы.

У апісаным вышэй выпадку, хутчэй за ўсё, адбылася памылка. Энергетыкі альбо купілі, альбо прынеслі з сабою замест самагонкі дыхлорэтыл.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# Надзвычайная сітуацыя на дарогах

Заканчэнне, пачатак на стар.1

Польскія ўлады выказваюць занепакоенасць тым, што некалькі чалавек маглі загінуць у выніку сыходу лавіны на горным курорце Закапанэ. Сотні людзей не могуць вярнуцца з гэтага курорту дахаты.

Асабліва сур'ёзна пацярпелі паўднёвыя раёны Польшчы, шмат якія дарогі сталі зусім непраезнымі.

На галоўных аўтамагістралях за адну ноч утварыліся высокія сумёты, з-за якіх кіроўцы мусяць па некалькі гадзін прастойваць на дарогах.

У іншых рэгіёнах Польшчы снегапады таксама дадалі кіроўцам галаўнога болю. Непадалёк ад горада Лодзь снег блакаваў адну з галоўных транспартных артэрыяў, якія злучаюць поўнач і поўдзень краіны.

Як заявіў агенцтву *Reuters* прадстаўнік Нацыянальнага дарожнага бюро Польшчы, ніхто не чакаў такіх моцных снегападаў. Цяпер робіцца ўсё магчымае, каб расчысціць дарогі, але ў некаторых раёнах снег працягвае ісці, і таму гэтая праца робіцца марнай.

У паўночных і ўсходніх раёнах Славакіі з-за снежных ападкаў склалася вельмі цяжкая транспартная сітуацыя. Аднак рух па дарогах не забаранілі. У адной з шматлікіх аўтаавар'яў, што адбываюцца цяпер у Славакіі, лёгка пацярпеў нават прэзідэнт краіны Рудольф Шустэр.

У Албаніі ў Новы год снегапады цалкам адрэзалі ад знешняга свету 150 000 вяскоўцаў. У выніку забеспячэннем сялян харчаваннем давялося заняцца міжнародным міратворцам з сілаў *KFOR*, што месцяцца ў суседнім Косаве.

Не лепшая сітуацыя склалася і ў Германіі з Францыяй. На паўночным усходзе Францыі моцныя снегапады прымусілі выйсці з берагоў рэкі Мозэль, Мёз і Сена. Гэта выклікала перабоі ў працы транспарту.

У Парыжы ў сераду давялося выключыць блакітна-жоўтую ілюмінацыю сцяга аб'яднанай Еўропы, якую запалілі з нагоды ўвядзення адзінай валюты еўра, – воды Сены апынуліся зусім непадалёк ад электраўстановак, ад якой ілюмінацыя сілкавалася.

Ад стыхіі пацярпелі заходнія раёны Украіны – тысячы вяскоўцаў засталіся без электрычнасці. У латвійскай сталіцы Рызе за дзень выпала да 40 сантыметраў снегу. Тэмпература надвор'я там трымаецца на ўзроўні –20°С.

**Ірына СТАРЦАВА**



ІНСТЫТУТЫ

# ПАСЕ спадзяецца, але не верыць

21-25 студзеня ў Страсбургу пройдзе зімовая сесія Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Да гэтага часу, як плануецца, Мінск наведзе спецыяльная місія ПАСЕ дзеля маніторынгу ўнутрыпалітычнай сітуацыі – вынікі маніторынгу будуць абнародаваныя на паседжанні Палітычнага камітэту, якое мае прайсці ў рамках сесіі ПАСЕ. Менавіта Палітычны камітэт мае рэкамендаваць сесіі ПАСЕ вярнуць Беларусі статус «спецыяльна запрошанага».

Рашэнне аб маніторынгу Палітычны камітэт ПАСЕ прыняў на апошнім паседжанні ў Вільнюсе. Асноўнай умовай магчымага аднаўлення гэтага статусу па-ранейшаму застаецца выкананне беларускімі ўладамі чатырох патрабаванняў: дэмакратызацыя Выбарчага кодэксу; доступ апазіцыі да дзяржаўных мас-медыяў; вызваленне ўсіх палітзняволеных; стварэнне атмасферы, вольнай ад страху. У якасці дадатковых патрабаванняў называюцца неабходнасць увядзення пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека і адмена смяротнага пакарання.

У Навагоднім лісце Генеральны сакратар Савета Еўропы Вальтэр Швімер выказаў надзею на «дэмакратычнае развіццё Беларусі». «Каб узнавіць працэдуру ўступу, трэба зрабіць канкрэтныя крокі ў напрамку да еўрапейскіх стандартаў – такіх, як паляпшэнне становішча з фундаментальнымі правамі і свабодамі, увядзенне мараторыя на смяротную кару, усталяванне пасады незалежнага омбудсмена», – падкрэсліў В.Швімер. Можна зрабіць выснову, што для Беларусі ўваход у Савет Еўропы – недасяжная мара. На пачатку 2002 году сябрамі Савета Еўропы могуць стаць толькі Боснія і Герцагавіна. Першай прыступкай на шляху да вяртання ў Еўропу магло б стаць аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» ў ПАСЕ.

**Рыгор БУЯН**

# СНІД з'явіўся дзякуючы пеніцыліну

Сваім з'яўленнем вірус СНІДу можа быць абавязаны добрым намерам міжнародных арганізацыяў, якія ў сярэдзіне XX стагоддзя пачалі змагацца з інфекцыямі ў афрыканскіх краінах. На думку амерыканскіх вучоных з Медыцынскага цэнтру Мантэф'ёрэ, прычынай яго нараджэння маглі быць шматлікія ін'екцыі пеніцыліну.

Згодна з тэорыяй, якую Эрнест М.Друкер выклаў на старонках часопісу *The Lancet*, менавіта кампанія па барацьбе з фрамбезіяй і іншымі інфекцыйнымі захворваннямі, якая пачалася ў 50-х гадах пад эгідай ААН, паспрыяла перадачы адносна бясшкоднага малпавага вірусу чалавеку.

Даследчык патлумачыў, што з гэтым вірусам афрыканскія паляўнічыя кантактавалі цягам стагоддзяў, і ён не ўяўляў сур'ёзнай небяспекі, таму хвароба цягнулася нядоўга. Аднак уколы, якія рабілі хворым афрыканцам нестэрыльнымі іголкамі, стварылі спецыфічныя ўмовы для трансфармацыі вірусу ў ВІЧ. Рэч у тым, што вірус мог паслядоўна перадавацца некалькім людзям і меў час, каб прыстасавацца шляхам мутацыяў да ўмоваў кожнага паасобнага арганізму. Такім чынам, пасля шэрагу паслядоўных заражэнняў чалавека праз нестэрыльныя іголкі першапачатковы вірус добра адаптаваўся і, у выніку, даў пачатак сённяшняму вірусу СНІДу.

Акрамя таго, як лічаць аўтары гэтай працы, распаўсюджванне вірусу па планеце таксама было шмат у чым абумоўлена выкарыстаннем брудных іголак, і не толькі ў асяродку наркаманаў. Нават у 1998 годзе Сусветная арганізацыя аховы здароўя ўсё яшчэ рэкамендавала карыстацца шпрыцамі падчас кампаніяў вакцынацыі па 200 разоў, нягледзячы на звесткі, што шпрыцы пры гэтым кепска стэрылізуюць.

# Экспрэс-адукацыя Гары Потэра



Пасля выхаду ў свет чацвёртай кнігі прыгодаў Гары Потэра і кінастужкі паводле першай кнігі Дж.Роўлінг пра маленькага чараўніка ўсе з нецярплівасцю чакаюць працягу. Нагадаем, што некалькі месяцаў таму пісьменніца паведаміла, што збіраецца напісаць сем кніжак пра Гары – пра кожны год ягонага навучання ў школе магіі Хогсвардзе. Аднак Роўлінг прызналася, што герой яе ўжо досыць стаміў, бо, займаючыся напісаннем ягонай гісторыі, яна зусім забылася на сапраўдную «гераіню яе душы» – сваю маленькую дачку.

І вось нарэшце знакамітая пісьменніца заявіла, што завершана пятая кніга пра Гары Потэра. Пісьменніца сказала, што яна дапісала заключны раздзел прыгодаў героя, якога так палюбілі мільёны людзей. Пісьменніца паказала рукапіс заключнага раздзелу кнігі пра прыгоды Гары. Аказваецца, усе сюжэты кніг пра Потэра Роўлінг прыдумала яшчэ задоўга да таго, як творы былі напісаныя.

«Вось і ўсё, – сказала Роўлінг. – Я не распавядаю пра змест гэтага раздзелу па зразумелых прычынах. Гэта эпілог, дзе апісана, што будзе з усімі героямі пасля таго, як яны скончаць школу чараўнікоў».

Напраўду, сюжэт кожнай наступнай кнігі Джоан Роўлінг усё больш паважнее. І небяспека, якая чакае Гары і ягоных сяброў, пад чацвёрты раздзел робіцца ўжо зусім не дзіцячаю. Дадамо, што ўжо ў чацвёртай кнізе адбываецца некалькі жахлівых забойстваў.

Паколькі ў пятай кнізе Гары, Рону і Герміёне будзе ўжо па 15 гадоў, то, як сказала Роўлінг, у іх ужо «на ўсю моц пачынаюць гуляць гармоны». Таму з'явіцца лінія кахання галоўных герояў. «Без гэтага проста немагчыма абысціся, – заявіла стваральніца папулярных кніг. – Акрамя таго, у пятай кнізе Гары разважае над некаторымі пытаннямі, і я спадзяюся, што чытач падумае: «Цікава, а чаму ён раней не пажадаў пра гэта даведацца?»

Першыя чатыры кнігі прыгодаў Гары Потэра ўжо пераклалі на 37 моваў; ва ўсім свеце іх прададзена больш за 100 млн. асобнікаў.

**Utro.ru**

# Нарадзіць радзіму



Фота Ул.ШЛАПАКА

Часам здаецца, што мы належам да найбольш «перадавой» нацыі ў Еўропе — у тым сэнсе, што бліжэй за іншых падступіліся да канца гісторыі. І ў пакаленні, і ў нацыі людзей лучаць агульная спадчына і планы на будучыню. Большасці *народу X* не трэба ні спадчыны, ні лепшай долі для ўсіх, абы вайны не было ды на апахмел грошай хапала. Славутае сялянскае крэда «як ёсць, так і добра» азначае, што лепш жыць госцем на гэтым свеце, чым гаспадаром. Яшчэ ад бабулі памятаю прыпеўку:

*А ў калгасе добра жыць:*
*Адзін робіць — сем ляжыць,*
*А як сонца прыпячэ —*
*Дык і тэй уцячэ!*

Філосаф Валянцін Акудовіч пракаментаваў гэтыя радкі так: «Быць першым у чарзе па нябыт — незайздросны стан, але ён невымерна пагаршаецца, калі ты ў гэтай чарзе адначасна і апошні. Беларускі этнас разпораз небяспечна набліжаецца да «сітуацыі Чынгачгука». Сёйтой нават мае з гэтага нейкую мазахісцкую асалоду, бо, што ні кажы, не кожнаму шэнціць быць сведкам Апакаліпсісу, хай сабе і ў межах адной асобна ўзятай краіны».

Ці выпадкова Ларыса Геніюш дала першаму зборніку сваіх вершаў прарочую назву «Ад родных ніў»? Хутчэй за ўсё, Геніюш замяніла расейскім словам «ад» беларускае «пекла» таму, што найвялікшым катаваннем для яе было б чуць на родных палетках расейскую мову — мову Гулагу і каланіяльнае адміністрацыі. Але не выключана, што паэтка зашыфравала ў назве кнігі параду наступным пакаленням не шукаць спачування ідэям нацыянальнага адраджэння ў калгаснай вёсцы.

Кожнай культуры патрэбныя шаноўныя продкі, што загінулі са зброяй у руках ці палымяным словам на вуснах. Але тое, што на карысць нацыі, не заўсёды добра для чалавека. Калі мы не можам вярнуць аднятую радзіму, то павінны стварыць яе самі.

Народ, які не абнаўляе свайго светагляду, мовы, сваіх традыцыяў, застаецца недзе ў мінулым часе, за спінамі іншых народаў, бо нельга спыніць развіцця астатняга чалавецтва, нельга спыніць гісторыі. Як і чалавека, этнас лягчэй нарадзіць, чым уваскрасіць. Дый не *ад*-род, а *на*-род хацелася б бачыць на гэтай зямлі. Каб займець Радзіму, трэба дапамагчы ёй нарадзіцца, бо яна сама — не толькі нашая маці, але таксама і нашая дачка. Мабыць, трэба неяк абмяжоўваць інтэрвенцыю чужой мас-культуры, але ж таксама не варта пераймаць ва ўсім нашых дзядоў: ці здолелі б яны жыць у сучасным свеце?

У старой гвардыі адраджэнцаў пашыраная думка, што нам трэба не шукаць нейкіх новых тэхналогіяў жыцця, а проста звярнуцца да тых, што «цепляцца яшчэ ў глыбіні народу». Мінуўшчына, нават найпрыгажэйшая, мусіць быць для нас не мэтай, а толькі адным з арыенціраў.

Індустрыяльная рэвалюцыя ў свой час, насуперак спадзяванням марксістаў, абудзіла ў чалавецтве не класавую, а нацыянальную свядомасць. Канвеерная вытворчасць зрабіла даступнымі для ўсіх класаў адны і тыя самыя рэчы і паслугі, хоць і рознай якасці. Усе заклікі да класавай салідарнасці з боку сацыялістаў, а потым камуністаў адразу сціхалі, як толькі пачыналі супярэчыць нацыянальным інтарэсам. Нават і сёння апірышчам нацыянальнага руху ў Беларусі з'яўляецца не вёска, а горад, дзе на кожным кроку — машыны (і не ў апошнюю чаргу праблемы гэтага руху вынікаюць з таго, што большасць нашых гараджанаў яшчэ думаюць па-вясковаму, бо два ці болей дні штотыдзень працуюць на зямлі — у роднай вёсцы альбо на лецішчы). Звычайны вясковы жыхар думае ў маштабах уласнай гаспадаркі, радзей — у маштабах вёскі, часам — у раённых маштабах, але нацыя (а тым больш чалавецтва) для яго — нешта няўцямнае.

Паспрыяць беларусам у пабудове нацыянальнай дзяржавы магла б новая хваля індустрыялізацыі (першая індустрыялізацыя нарадзіла ў нас савецкую нацыю). Былы «зборачны цэх» Савецкага Саюзу, наш край застаецца адным з найбольш індустрыялізаваных рэгіёнаў свету (паводле працэнту насельніцтва, занятага ў прамысловасці). У эканоміцы старэйшых дзяржаваў ужо некалькі дзесяцігоддзяў назіраецца працэс дэіндустрыялізацыі: машыны вучацца абслугоўваць самі сябе, а людзі (у каго ёсць праца) занятыя ў сферы паслугаў — гандлю, адукацыі, турыстычным бізнесе і г. д. У Заходняй Еўропе засталося ўжо няшмат прамысловых гігантаў — што і дазволіла ёй аб'яднацца. Атавістычныя нацыянальныя пачуцці цяпер не саромеюцца паказваць толькі на спартовых арэнах: стадыён — гэта завод, прызначаны для бяспечнай утылізацыі нацыяналізму. Вытворчая база пераводзіцца ў краіны «трэцяга» і «другога» свету (былы сацыялістычны лагер), дзе працоўная сіла ў некалькі разоў таннейшая (увогуле кажучы, светаў існуе столькі ж, колькі лічбаў у матэматыцы, але «першым» звычайна лічаць той, які задае тон усім астатнім). Калі спадчына сацыялізму ў Беларусі канчаткова спарахнее — гэтая хваля новай індустрыялізацыі накрые і нашую краіну коўдрай замежных інвестыцыяў.

Колькасць рабочага класу скарачаецца паўсюль у свеце (менавіта гэта і абумовіла заняпад камуністычных партыяў). Меншае людзей, якія абслугоўваюць канвееры гіганцкіх заводаў, і большае тых, што працуюць у дробных сямейных фірмах альбо самі сабою (дызайнеры, праграмісты, рэкламныя агенты і г.д.).

Амаль паўсюль па свеце (апрача хіба Беларусі) адбываецца дэцэнтралізацыя ўлады, што размывае дзяржаўныя межы і нацыянальную ідэнтычнасць. Сацыёлаг Жан-Мары Геено ў кнізе «Канец дэмакратыі» з гэтай нагоды кажа: «Сучасная дэмакратыя ўтваралася на прынцыпе панавання на пэўнай тэрыторыі. Нацыя — у тым сэнсе, які надалі гэтаму слову еўрапейцы, — гэта прастора супольнага жыцця, якую не выбіраюць, а атрымліваюць у спадчыну. Сённяшняя рэвалюцыя тэлекамунікацыяў перакульвае традыцыйныя каштоўнасці: сутнасць улады палягае цяпер у кантролі не над тэрыторыяй, а над доступам да інфармацыі. (...) Усё болей і болей людзей будуць самі выбіраць, у якой супольнасці ім жыць. Нацыянальная ідэя сёння перастае быць самакаштоўнай і мае ўжо толькі дапаможны характар. Яна выжывае дзякуючы альянсу з больш магутнымі каштоўнасцямі — рэлігіяй, расай, ідэалогіяй, племем».

Сярод нашых суайчыннікаў таксама ўжо ёсць людзі, якія псіхалагічна жывуць не паміж заводам і лецішчам, а на ўсёй Зямлі адразу — недзе паміж арбітамі Венеры і Марса. Тым не менш, абудзіць у насельніцтва РБ нацыянальную свядомасць трохі часу яшчэ ёсць. Галоўнае, каб хутчэй дабурыліся фабрыкі, што засталіся нам у спадчыну ад СССР і працягваюць разам з асноўнай прадукцыяй вытвараць імперскую ментальнасць.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Марыхуана і мозг

**С'юзен А.ГРЫНФІЛД, прафесар фізіялогіі ў Оксфардскім універсітэце, дырэктар Каралеўскага інстытуту Вялікабрытаніі**

*Па Еўропе і Амерыцы разбягаюцца хвалі дыскусій адносна легалізацыі марыхуаны для асабістага карыстання. У Вялікабрытаніі, насамрэч, выкарыстанне марыхуаны ў любых мэтах і з любым намерам крымінальна не караецца.*

Агульнапрынятае апраўданне для легалізацыі ці дэкрыміналізацыі марыхуаны круціцца вакол ідэі пра тое, што яе ўжыванне не цягне за сабою ніякіх ахвяраў. Але падчас эксперыментальных даследаванняў выявілася, што адрозненні ў рэакцыях паміж тымі, хто выпаліў толькі адну цыгарэту з памяркоўнай дозай марыхуаны, і кантрольнай групай, якая прымала плацэба, назіраюцца нават 50 гадзін пасля ўжывання прэпарату. Іншыя праблемы для грамадства – гэта няшчасныя выпадкі на працы або дома, благое засваенне ведаў, нізкая працаздольнасць і выдаткі бюджэту на ахову здароўя.

Другі аргумент на карысць мякчэйшага стаўлення да марыхуаны палягае ў тым, што яна быццам бы не выклікае прывыкання. Вызначыць тэрмін «прывыканне» досыць складана, але калі бачыць за ім няздольнасць кінуць звычку, то ўзнікаюць моцныя сведчанні за тое, што марыхуана выклікае залежнасць. Многія з жыхароў ЗША, Вялікабрытаніі і Новай Зеландыі, якія ўжывалі марыхуану, цяпер звяртаюцца ў клінікі, жадаючы вылечыцца ад наркатычнай залежнасці. 10% курцоў марыхуаны, якія маюць намер спыніцца і парваць з гэтай звычкай, сутыкаюцца з цяжкасцямі, калі спрабуюць гэта зрабіць, а 10-15% курцоў атрымліваюць наркатычную залежнасць. Сімптомы ломкі назіраюцца ўжо праз тры дні ўжывання марыхуаны ў слабых дозах.

Трэці аргумент на карысць мякчэйшых законаў аб ужыванні марыхуаны – тое, што яна, як лічыцца, можа здымаць боль. Але тады трэба правесці розніцу паміж рэгенерацыйнымі прэпаратамі і лекамі, як гэта было зроблена для прэпаратаў, што ўтрымліваюць опіум. Калі марыхуана – сродак абязбольчы, то яна павінна моцна ўплываць на мозг фізічна. Ёсць багата паведамленняў пра ўздзеянне марыхуаны на мозг у пэўных зонах, павязаных з памяццю (гіпакамп), эмоцыямі (мезалімбічная сістэма) і рухамі (падкоркавыя вузлы). Марыхуана ўплывае на шмат якія хімічныя сістэмы, працуючы праз свае ўласныя «рэцэптары», г.зн. уласныя малекулярныя мішэні. Той факт, што ў чалавечым арганізме існуе прыродны аналаг марыхуаны, як і ў выпадку з морфіем, дае галоўную падставу, каб правесці мяжу паміж марыхуанай і алкаголем. Бо рэчыва, якое ўздзейнічае на многія медыятарныя сістэмы, як быццам само робіцца медыятарам.

Можа, у гэтым няма нічога дзіўнага, бо марыхуана відавочна ўплывае на псіхіку: гэта не толькі эйфарыя, але часта і амаль незаўважныя станы непакою, панікі і параноі.

Яшчэ болей турбуе – хоць гэта не канчаткова даведзена – факт, што гэткае ўздзеянне можа быць доўгатэрміновым. У адной з апошніх прац прыводзяцца вынікі параўнання ўздзеяння марыхуаны на тых, хто раней ужываў яе 9 гадоў, а потым устрымліваўся ад яе ад 3 месяцаў да 6 гадоў, з тымі, хто ўжываў марыхуану альбо доўгі час (10 гадоў), альбо адносна кароткі (3 гады). Ва ўсіх гэтых выпадках частата ўжывання была ад 10 да 19 дзён у месяц; і ўсе, хто ўжываў марыхуану, незалежна ад таго, кінулі яны гэтую звычку ці не, мелі парушэнні ўвагі ў параўнанні з кантрольнай групай.

Таму натуральна, што калі гэтыя працяглыя змены зробяцца незваротнымі, то ўзнікне верагоднасць паталогіі мозга.

Супраць такога пункту гледжання можна запярэчыць, што, маўляў, існуе «бяспечная» доза марыхуаны, якая не ўплывае на мозг і якую льга дакладна вызначыць. Бо нават доза, супастаўная з адным «касяком» (цыгарэта з марыхуанай), і аналагічныя ўзроўні актыўнага кампаненту ТГК (тэтрагідраканабіёл) у плазме могуць забіць 50% нейронаў гіпакампа (зоны, звязанай з памяццю) усяго за 6 дзён.

Больш за тое, людзі не ведаюць, што ТГК, які ўтрымліваецца ў марыхуане, застаецца ў арганізме 5 і болей дзён. Калі нехта ўжывае марыхуану рэгулярна, то доза ТГК у ягоным арганізме вышэйшая, чым трэба. Вельмі лёгка таксама недаацаніць моц прынятае дозы, бо яна істотна вагаецца ў залежнасці ад якасці марыхуаны.

Марыхуана можа сур'ёзна ўплываць на розум, гэты ўплыў я вызначаю як персаніфікацыю ланцугоў мозга, якая адлюстроўвае досвед індывідуума.

Моцнадзейнае рэчыва, якое валодае якасцямі медыятара, павінна ўплываць на гэтыя ланцугі. Таму тыя, хто паліць марыхуану, каб, як кажуць англічане, «узарваць свой розум» (выклікаць у сябе галюцынацыі), могуць гэтага дасягнуць і насамрэч.



Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1801 Нумар падпісаны ў друк 3/01/2002 (15:00) Наклад – 8.710